











**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

20 верасня 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 38 (2700)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**АФІЦЫЙНА**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА ЛІЧЫЦЬ ПАЕЗДКУ НА САМІТ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ ПАСПЯХОВАЙ І КАРЫСНАЙ

**Пасля вяртання афіцыйнай дэлегацыі нашай краіны з Кубы і ЗША прэс-сакратар Прэзідэнта Беларусі Мікалай БАРЫСЕВІЧ паведаміў падрабязнасці знаходжання кіраўніка дзяржавы і іншых членаў дэлегацыі за акіянам.**

Найперш М. Барысевіч спыніўся на выніках паездкі на Кубу. Па словах прэс-сакратара, гандлёвы абарот нашай краіны з дзяржавамі Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна склаў за гэты год больш як 200 мільёнаў долараў ЗША, з якіх 75 працэнтаў прыпадае на тры краіны — Аргенціну, Бразілію і Кубу. Памер гандлю з Кубай — 40 мільёнаў долараў.

Падчас праведзеных на Кубе сустрэч бакі вызначылі як важны накірунак магчымасць стварэння сумесных беларуска-кубінскіх вытворчасцей, якія выпускалі б канкурэнтаздольную прадукцыю. "Пасля наведвання Прэзідэнтам Цэнтра геннай інжынерыі размова ішла аб стварэнні прадпрыемства па вытворчасці вакцыны В", — сказаў М. Барысевіч. Што датычыцца іншых галін, то ў канцы гэтага года на Кубе чакаецца адкрыццё прадстаўніцтва Магілёўскага аўтамабільнага завода, які спецыялізуецца на выпуску буйнагабарытнай і кар'ернай тэхнікі. А на МТЗ спадзяюцца адкрыць на Кубе вытворчасць па зборцы беларускіх трактароў.

Як адзначыў М. Барысевіч, Прэзідэнт, пакідаючы Кубу, заявіў, што "візіт адкрывае новую старонку ў адносінах паміж Кубай і Беларуссю".

Айчынны друк нямала пісаў і пра знаходжанне нашай дэлегацыі на саміце тысячагоддзя ў Нью-Йорку. Але М. Барысевіч яшчэ раз нагадаў, што акрамя выступлення з трыбуны форуму Прэзідэнт А. Лукашэнка меў нефармальныя сустрэчы з кіраўнікамі Расіі, Кітая і ЗША, прэм'ер-міністрам Ізраіля. У першы ж дзень работы саміта прайшлі яго сустрэчы з лідэрамі Алжыра, Бангладэш, Ірана і Турцыі — краін, якія адыгрываюць актыўную ролю ў дзейнасці руху недалучэння. Напрыклад, сустрэча з прэзідэнтам Бангладэш была абумоўлена якраз тым, што на наступным саміце Руху недалучэння гэтая краіна будзе старшынстваваць.

М. Барысевіч яшчэ раз абверг інфармацыю, якую распаўсюдзілі расійскія СМІ, што А. Лукашэнка нібыта пакінуў Нью-Йорк дачасна. "Гэта не інфармацыя, а дэзінфармацыя. Праграма знаходжання беларускай дэлегацыі была распрацавана задоўга да візіту, і адхіленняў ад яе не было", — падкрэсліў М. Барысевіч.

**Юрась ДОМНІЧ.**

Працяг тэмы на 2-й—3-й стар.

**ПАСЛЯСЛОЎЕ: ПІСЬМЕНСТВА ПА-ЗАСЛАЎСКУ**



Чарговы раз Беларусь адзначыла адно з самых цікавых сваіх свят — Дзень беларускага пісьменства. Важнасць гэтай падзеі падкрэслівала і месца правядзення — старажытнае Заслаўе.

Пачалося свята ўрачыстым богаслужэннем у Спаса-Праабражэнскай царкве і хрэсным ходам з Непагаснай Лампадай з жыватворным агнём ад Труны Гасподняй. На старажытным дзядзінцы каля царквы акадэмічныя калектывы Беларусі разгарнулі мастацка-гістарычнае прадстаўленне "Запавет нашчадкам".



Затым уся грамада прыйшла на Рынкавую плошчу, дзе адбылося ўрачыстае адкрыццё свята пісьменства і фестывалю беларускай кнігі і прэсы. Тут можна было набыць кнігі шматлікіх беларускіх выдавецтваў, сустрэцца з галоўнымі рэдактарамі газет і часопісаў, вядомымі пісьменнікамі, паслухаць народныя мелодыі ў выкананні прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў.



НА ЗДЫМКАХ: на пытанні адказвае віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Міхаіл ДЗЯМЧУК; фрагменты свята.

Заканчэнне на 2-й стар.

**ЖЫЦЦЁ І ВЕРА**

## З ПАКАЯННЕМ У НОВАЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

**СВЯШЧЭННІК Фёдар КРЫВАНОС ВЫЯВІЎ 330 ІМЁН РЭПРЭСІРАВАНЫХ СВЯТАРОЎ. 23 З ІХ КАНАНІЗАВАНЫ**

У прадмове да "Сінодзіка за веру і Царкву Хрыстову, што пацярпелі ў Мінскай епархіі (1918—1951 гады)" складальнік выдання клірык Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора свяшчэннік Фёдар Крыванос піша: "Доўгія гады імкнуліся ўсяляк замоўчваць усе тыя ліхадзействы, што былі скіраваныя супраць Царквы. Выкрасліць з гісторыі, знішчыць у памяці народнай здзейсненыя злачынствы. Гэта, аднак, не ўдалося".

Зараз ужо ні для кога не сакрэт, што пасля прыходу да ўлады бальшавікоў, якія абвясцілі рэлігію "опіумам для народа" і ўзяліся актыўна ўкараняць ваяўнічы атэізм, адной з першых ахвяр новай дактрыны сталі свяшчэннаслужыцелі ўсіх канфесій. Іх арыштоўвалі, ссылалі, расстрэльвалі. Лічылася, такім чынам умацоўваецца дзяржава, грамадства, мараль. Што з таго выйшла, мы добра бачым сёння.

Падабаецца гэта некаму ці не, але не можа чалавек жыць без веры. А яе, веру ў Бога, у нашых людзей аднялі, вера ў камунізм аказалася чарговым і галоўным мыльным пузыром ідэалогіі бальшавікоў, веру ў сябе, свае ўласныя сілы ў савецкіх людзях не выхоўвалі свядома: навошта, калі ўсё ведае і вырашае дзяржава. У рэшце рэшт і атрымалі тое, што маем.

Аднак не так проста вытравіць з людскіх душ тое, што трымала іх стагоддзямі. Таму, як толькі распачаліся сацыяльныя і грамадскія рэформы, першае, што многія з нас зрабілі, — павярнуліся тварам да храмаў, увайшлі туды — можа, нават упершыню. Тым больш гэта было важна ў перыяд, калі звыклая сацыяльная глеба зрабілася вельмі зыбкай і стала літаральна сплываць з-пад ног. Але ж перад тым, як звярнуцца да Бога, людзям усё ж трэба папрасіць у яго прабачэння, у тым ліку, і за тыя загубленыя жыцці святароў, што леглі на атэістычны ахвярнік мінулых гадоў.

Малады свяшчэннік, гісторык па адукацыі, айцец Фёдар Крыванос па благаславенню Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта шэсць гадоў таму назад распачаў вялікую даследчыцкую працу па вяртанню з небыцця імёнаў праваслаўных свяшчэннікаў, якія пацярпелі ад рэпрэсій.

Заканчэнне на 5-й стар.

**МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

На свята беларускага пісьменства, якое праходзіла 3 верасня ў старажытным Заслаўі, былі запрошаны старшыня таварыства дружбы "Малдова — Беларусь", заслужаная артыстка Малдовы спявачка Маргарэта Івануш і сябры гэтага таварыства тэлежурналіст Тамара Сапега і артыстка Кішынёўскага рускага драматычнага тэатра імя Чэхава Марына Падалян. Яны прынялі ўдзел у гала-канцэрце майстроў беларускай эстрады і былі цёпла сустрэты слухачамі. Акрамя гэтага, госці з Малдовы сустрэліся з сябрамі таварыства "Беларусь — Малдова" ў сталічным Доме дружбы, з кіраўніцтвам Мінскага гарадскога таварыства жанчын, са студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў, наведалі мастацкі музей, майстэрню мастака Аляксея Кузьміча, саборы і касцёлы горада Мінска,usклалі кветкі да магіл выдатных дзеячаў і майстроў культуры Беларусі на Маскоўскіх могілках. З сабой у Малдову шаноўныя госці павезлі падарункі прыхільнікаў іх таленту, любоў да беларускага народа і новыя беларускія кнігі для нашых землякоў, якія жывуць у Малдове.

**Уладзімір СКАРЫНКІН,**
**старшыня таварыства "Беларусь — Малдова".**



*Маргарэта ІВАНУШ і Уладзімір СКАРЫНКІН у Заслаўі.*

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

**ПАСЛЯСЛОЎЕ**



Пачатак на 1-й стар.

Цікава прайшла і прэс-канферэнцыя "Беларусь — XXI стагоддзе", на якой кіраўнікі дзяржавы, прэсы, адукацыі і культуры адказалі на пытанні пачынаючых журналістаў.

А каля этнаграфічнага комплексу "Млын" і ў гарадскім парку кірмаш народных рамёстваў прапанаваў гасцям свята разнастайныя памятныя сувеніры.

Завяршылася свята гала-канцэртам з удзелам вядучых мастацкіх калектываў рэспублікі.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Фота аўтара.**



**АФІЦЫЙНА**

# «БЕЛАРУСЬ АДКРЫТА ДЛЯ ДРУЖБЫ

## З ВЫСТУПЛЕННЯ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. ЛУКАШЭНКІ НА

Краіны і народы, як і людзі, надзелены Усявышнім роўнымі правамі на свабоду, мір і бяспеку, на дастойнае жыццё.

Між тым на працягу многіх стагоддзяў невялікая група дзяржаў вяршыла лёсы свету, разглядаючы астатнія нацыі і народы як бяспраўную масу.

Вялікую заваёву сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый я бачу ў тым, што ўдалося пакончыць з дзяленнем народаў на суб'екты і аб'екты міжнароднага права. Сёння кожная дзяржава, незалежна ад яе памераў і рэсурсаў, атрымала магчымасць на аднолькавых правах удзельнічаць у вырашэнні надзённых праблем сусветнага супольніцтва.

Беларускі народ унёс у станаўленне гэтай справядлівай сістэмы больш чым важкі ўклад. І мы не можам згадзіцца са спробамі дыктаваць нам, як жыць і з кім сябраваць.

У поўнай меры зазнаўшы жахі разбуральных войнаў, Беларусь не можа безуважна ставіцца да спроб зламаць стабільны светапарадак, які складваецца, парушыць геапалітычную раўнавагу ў свеце, вярнуць час, калі дзяржавы дзяліліся на краіны першага і другога сорту.

Прапановы Генеральнага сакратара ААН пана Кофі Анана, накіраваныя на павышэнне эфектыўнасці Арганізацыі, успрымаюцца намі з глыбокай цікавасцю.

Думаю, усе згодныя з тым, што пры ўсёй разнастайнасці мэт, якія стаяць перад Аб'яднанымі Нацыямі, галоўным прызначэннем нашай Арганізацыі застаецца забеспячэнне міжнароднага міру і бяспекі.

Пакуль, на жаль, ААН не ў поўнай меры спраўляецца з задачай прадухілення агрэсіі і ўзброеных канфліктаў. Выпадкі прымянення ўзброенай сілы ў абход Савета Бяспекі ААН не вырашылі ні аднаго пытання, а толькі ўскладнілі існуючыя праблемы.

Беларусь зыходзіць з таго, што ў XXI стагоддзі ўзброеная сіла не можа быць законным інструментам міжнароднай палітыкі. Менавіта імкненне зрабіць свет больш бяспечным было асноўным матывам нашага рашэння адмовіцца ад статуса ядзернай дзяржавы. І я не разумею тых краін, якія так упарта гавораць аб пагрозе ядзернага распаўсюджвання, але разам з тым не хочуць узяць на сябе адказнасць за тое, каб зрабіць Цэнтральную і Усходнюю Еўропу свабоднай ад ядзернай зброі, як гэта прапануе Беларусь.

Карыстаючыся выпадкам, хачу прыцягнуць увагу сусветных лідэраў, якія прысутнічаюць у гэтай зале, да праблемы ўмацавання экалагічнай бяспекі і адказнасці вялікіх і малых дзяржаў за захаванне навакольнага асяроддзя.

Многія ў свеце пачалі забываць аб найбуйнейшай тэхнагеннай катастрофе адыходзячага стагоддзя — чанобыльскай аварыі, асноўнай ахвярай якой стала Беларусь. Маральны абавязак Аб'яднаных Нацый — мабілізаваць сусветныя рэсурсы на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай і іншых экалагічных катастроф. Без усведамлення нашай калектыўнай адказнасці за захаванне агульнага асяроддзя

**АЛІМПІЙЦЫ**



Наталля БАРАНОЎСКАЯ (на здымку) — майстар спорту міжнароднага класа. Яна рэкардсменка і чэмпіёнка краіны па плаванню, неаднаразовая пераможца і прызёр многіх сусветных і еўрапейскіх турніраў. На чэмпіянаце Еўропы па водных відах спорту, які нядаўна праходзіў у Хельсінкі, заваявала залаты і сярэбраны медалі. Сёння Наталля Бараноўская абараняе гонар рэспублікі на Алімпіядзе ў Сіднэі.

**Фота БелТА.**

**ГРЫБНЫ ВЕРАСЕНЬ**



З поўным кошыкам.
**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

**РЭТРАСПЕКТЫВА**

# БЕЛАРУСЬ У ААН: АДНА З ЗАСНАВАЛЬНІЦ ЎДЗЕЛ У РАБОЦЕ ГЭТАЙ

Нагадаем, 27 красавіка 1945 года канферэнцыя Аб'яднаных Нацый у Сан-Францыска прыняла рашэнне аб уключэнні БССР і УССР у лік заснавальнікаў новай арганізацыі. Юрыдычнай падставай для гэтага стаў прыняты Вярхоўным Саветам СССР у лютым 1944 года Закон аб прадастаўленні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у галіне знешніх зносін. Патрабаванне СССР на канферэнцыі ў Думбартан-Оксе (жнівень 1944 года) аб уключэнні ўсіх 16 рэспублік у лік першапачатковых членаў было адхілена. Увайшлі толькі УССР і БССР як рэспублікі, якія панеслі найвялікшыя ахвяры ў другой сусветнай вайне. 6 мая 1945 года дэлегацыя БССР на чале з наркамам замежных спраў К. Кісялёвым прыбыла на канферэнцыю ў Сан-Францыска, дзе ўдзельнічала ў распрацоўцы і прыняцці Статута ААН. Калі ўрады падпісвалі гэты важны дакумент, яны прынялі рашэнне будаваць адносіны паміж дзяржавамі на іншых падставах, чым тыя, што прынеслі чалавецтву ў нядаўнім ці больш аддаленым мінулым столькі канфліктаў, несправядлівасці і пакут. Дзяржавы — члены новага сусветнага форуму вырашылі ўстараніць бедствы вайны, умацаваць мір згодна з нормамі міжнароднага права, паважаць раўнапраўе нацый, незалежна ад таго, малыя яны ці буйныя, усталёўваць сацыяльны прагрэс, абараняць асноўныя правы і свабоды чалавека, ператварыць ААН у цэнтр каардынацыі дзеянняў, якія служаць здзяйсненню агульных мэтаў. Пры гэтым беларуская дэлегацыя адстойвала права вета пастаянных членаў Савета Бяспекі, выступала за ўключэнне ў Статут палажэнняў пра самакіраванне народаў, супраць допуску франкісцкай Іспаніі ў арганізацыю, удзельнічала ў абмеркаванні іншых пытанняў.

26 чэрвеня 1945 года дэлегацыя БССР падпісала Статут ААН. Ён быў ратыфікаваны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР 30 жніўня. Прыкладна тады ж рэспубліка была прынята ў члены ЮНРРА (Адміністрацыя дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый), дзякуючы чаму атрымала дапамогу — 64 мільёны долараў. А ў лістападзе — снежні беларуская дэлегацыя ўжо прымала ўдзел у рабоце Падрыхтоўчай камісіі, якая засядала ў Лондане з мэтай распрацаваць механізм практычнай дзейнасці ААН.

Удзельнічаючы ў рабоце 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1946 годзе, БССР была ініцыятарам прыняцця адной з першых рэзалюцый ГА ААН "Аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў". На гэтай жа сесіі яна была абрана ў склад ЭКАСАС (Эканамічны і Сацыяльны саветы).

За наступныя сем гадоў БССР унесла ў ГА, ЭКАСАС і яго органы дзесяць прапаноў па сацыяльна-эканамічнай праблематыцы і тры па палітычнай. Найбольш значныя з іх: тры праекты рэзалюцый — а гэта галоўная зброя ААН ва ўплыве на сусветную грамадскую думку — па праблеме бежанцаў, дапаўнення ў тэкст Дэкларацыі правоў чалавека, аб раўнапраўі жанчын. У гэты перыяд наша рэспубліка ўжо была членам чатырох з 11 спецыялізаваных арганізацый ААН: Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (выйшла ў 1949 годзе), Міжнароднага саюза электрасувязі, Сусветнага паштовага саюза, Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі. У далейшым гэтае кола пашырылася. У 1954 годзе БССР стала членам Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) і ЮНЕСКА, у 1957 годзе — Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ), у 1974-м — Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці, у 1985 годзе — Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па прамысловаму развіццю (ЮНІДА). Праўда, толькі праз трынаццаць год пасля таго, як яе прадстаўнікі падпісалі дэкларацыю аб заснаванні ААН, Беларусі далі статус пастаяннага прадстаўніцтва. Аднак штаты, бюджэт, супрацоўнікаў — усё тады зацвярджала Масква. Нават бухгалтэрыя на працягу шматлікіх год была агульная.

Найбольш эфектыўнай дзейнасць Беларусі ў ААН была ў 60-я і 70-я гады. Рэспубліка стала ўдзельніцай шматлікіх дамоўленасцей па пытаннях раззбраення: Дагавора аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, космасе і пад вадой (1963 год), Дагавора аб прынцыпах дзейнасці дзяржаў па даследаванню і выкарыстанню касмічнай прасторы (1967 год), Канвенцыі аб забароне бактэрыялагічнай зброі (1972 год). Па ініцыятыве яе дэлегацый прыняты рэзалюцыі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі. Сэнс іх у стварэнні механізма для недапушчэння выкарыстання новых навуковых і тэхналагічных адкрыццяў і дасягненняў у ваенных мэтах.

Акрамя таго, Беларуская ССР уваходзіць у лік аўтараў шматлікіх іншых дакументаў, якія прыняты на сесіях таго перыяду. Яна становіцца ўдзельніцай больш 170 шматбаковых і шэрагу двухбаковых пагадненняў, якія тычацца пытанняў замацавання міру, раззбраення, мірнага выкарыстання касмічнай прасторы, міжнароднага супрацоўніцтва, у тым ліку ў галіне правоў чалавека. Менавіта па ініцыятыве беларускай дэлегацыі ў ААН былі падпісаны такія важныя пагадненні па абароне правоў чалавека, як Канвенцыя аб прадухіленні злачынстваў генацыду і пакарання за яго, Канвенцыя аб палітычных правах жанчын, Канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі. БССР была таксама адным з ініцыятараў прыняцця Дэкларацыі аб прадастаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам (1960 год), сааўтарам рэзалюцыі ГА ААН аб забароне выкарыстання замежных наёмнікаў супраць нацыянальна-вызваленчага руху (1968 год). Пры актыўным удзеле беларускай дэлегацыі была прынята і Канвенцыя аб непрымяненні тэрміну даўнасці да ваенных злачынцаў і злачынстваў супраць чалавецтва (1968 год).

Прадстаўнікі рэспублікі прымалі ўдзел у рабоце галоўных кіруючых органаў — у Савеце Бяспекі (у якасці непастаяннага члена ў 1974—1975 гадах), у Эканамічным і Сацыяльным саветах. Яе прадстаўнікі неаднаразова займалі высокія выбарчыя пасады на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН.

З усім новы перыяд дзейнасці беларускай дзяржавы ў ААН пачаўся з моманту прыняцця Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (27 ліпеня 1990 года) Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Менавіта тады быў зроблены зварот да ААН па дапамогу ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. У выніку актыўнай работы беларускай дэлегацыі 45-я сесія ГА ААН у снежні 1990 года прыняла рэзалюцыю "Міжнароднае супрацоўніцтва ў справе змякчэння і пераадолення наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС". Чарнобыльская трагедыя была прызнаная сусветнай супольнасцю як трансгранічная, глабальная радыялагічная катастрофа,



# І СУПРАЦОЎНІЦТВА»

## ПЛЕНАРНЫМ ПАСЯДЖЭННІ САМІТА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

пражывання чалавека ўсе дыскусіі аб справядлівым размеркаванні даброт і выдаткаў, якія нясе з сабой глабалізацыя, застануцца ўсяго толькі пустым гукам.

Цэнтральным пытаннем саміта тысячагоддзя з'яўляецца праблематыка правоў чалавека і развіцця дэмакратыі. Значэнне гэтых каштоўнасцей і высокіх стандартаў, замацаваных у дакументах ААН, думаю, нікім у гэтай зале не аспрэчваецца.

Праблема заключаецца ў тым, што правы чалавека і дэмакратыя ўсё часцей выкарыстоўваюцца некаторымі дзяржавамі як прычына для пакарання непажаданых краін і нацый.

Апошнім часам робяцца намаганні арганізаваць нейкі "клуб выбраных", у які не трапляе большасць дзяржаў свету. Нічога добрага для рэальнай падтрымкі дэмакратыі і правоў чалавека гэта высакамерная спроба дзялення народаў на "настаўнікаў" і "вучняў" не дае і не можа даць.

На заканчэнне хацеў бы прыцягнуць вашу ўвагу да неабходнасці паважлівых адносін да своеасаблівасці ўкладу жыцця, які склаўся, і гістарычнага лёсу кожнай нацыі.

Пакуль, на жаль, у міжнародных адносінах мы сутыкаемся з усё больш частымі спробамі ўладных людзей "прычасаць" усіх пад адзін грэбень, адмаўляючы нацыянальную і рэгіянальную спецыфіку, якая не ўкладваецца ў прывычныя рамкі "заходняга ўкладу жыцця".

Сумняваюся, што пераважная частка Аб'яднаных Нацый згодзіцца з такой высакамернасцю.

Беларусь няўхільна ідзе па шляху дэмакратычнага развіцця. Але робім мы гэта, апіраючыся на ўласны ўклад жыцця, які складваўся стагоддзямі, і нацыянальныя духоўныя традыцыі.

Менавіта таму нам удаецца спалучаць развіццё, дэмакратыю і стабільнасць. У нас не было і няма ні міжканфесійных, ні расавых канфліктаў. Нашы граніцы — гэта граніцы міру і супрацоўніцтва. Мы адкрыты для дружбы і супрацоўніцтва з усімі, хто з павагай ставіцца да нашай краіны і нашага народа.

якая мае беспрэцэдэнтны характар. Згодна з прынятай рэзалюцыяй, Арганізацыя Аб'яднаных Нацый атрымала мандат на каардынацыю і ініцыіраванне міжнароднага супрацоўніцтва па чарнобыльскай праблематыцы.

Аднак уваходжанне ў сусветную супольнасць на правах паўнапраўнага члена запатрабавала ад рэспублікі больш дакладнага і прынцыповага вызначэння ўласнага месца ў сістэме міжнародных зносін, удакладнення і канкрэтызацыі найбольш прыярытэтных галін знешнепалітычнай актыўнасці. Сярод іх былі вызначаны наступныя: умацаванне незалежнасці, імкненне да нейтралітэту і без'ядзернасці, рэалізм у пошуках эканамічных партнёраў. З улікам гэтых прыярытэтаў і будавалі сваю работу ў ААН дэлегацыі Беларусі на пачатку 90-х гадоў. Менавіта ў гэты перыяд Беларусь выступіла з ініцыятывай стварэння без'ядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мора. У кастрычніку 1991 года Вярхоўны Савет прыняў заяву "Аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь", дзе пацвердзіў прыхільнасць да Статута ААН, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, міжнародных пактаў аб правах чалавека.

Праз два гады Беларусь спрабавала, але, на жаль, беспаспяхова дабіцца ратыфікацыі месца ў Савеце Бяспекі. Гэта імкненне большасцю дэлегацый было, аднак, расцэнена як жаданне атрымаць падзяку за адмову ад ядзерных узбраенняў і палітыку нейтралітэту. У выніку жаданае месца атрымала Чэхія.

49-я сесія ГА ААН у кастрычніку 1994 года па просьбе Беларусі прыняла рашэнне аб змяншэнні штогадовага ўзносу Рэспублікі Беларусь у Бюджэт ААН у 1995 годзе да 0,37 працэнта, у 1996 годзе — 0,295 працэнта, у 1997-м — 0,28 працэнта ад агульнага бюджэту ААН. Так сталася, што ў 1973 годзе рэспубліка была аднесена да групы эканамічна развітых краін, таму ўзнос яе складаў 0,48 працэнта. І, бясспрэчна, змены былі патрэбныя, бо краіна пачала перажываць вялікія сацыяльна-эканамічныя цяжкасці.

На пачатку 90-х гадоў Беларусь аднавіла членства ў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, уступіла ў Міжнародны валютны фонд, Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця, Міжнародную арганізацыю грамадзянскай авіяцыі, а таксама атрымала статус назіральніка ў Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Важнай падзеяй для рэспублікі быў адзначаны канец 1998 года. 53-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН прагаласавала за рэзалюцыю аб рэгіянальным раззбраенні, якая прадугледжвала стварэнне без'ядзернай зоны ў Еўропе. Цяпер гэтая ідэя перастала быць толькі беларускай і зафіксавана ў рэзалюцыі як калектыўная думка сусветнай супольнасці. Такім чынам, першы крок да ўвасаблення беларускай ініцыятывы быў зроблены.

Сёння, як і 55 год назад, намаганні дзяржаў — членаў ААН, у тым ліку і Беларусі, накіраваны на тое, каб сусветны форум змог годна адказаць на выклікі, якія кінуты чалавецтву ў канцы стагоддзя і тысячагоддзя. Прымаюцца дзеянні для прымірэння народаў і ліквідацыі шматлікіх канфліктаў, вырашэння шэрагу найважнейшых глабальных пытанняў у палітычнай, эканамічнай, тэхналагічнай, культурнай, гуманітарнай і экалагічнай галінах.

## ААН, НАША КРАІНА 55 ГАДОЎ ПРЫМАЕ АЎТАРЫТЭТНАЙ МІЖНАРОДНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Падрыхтавала
**Таццяна ХРАПІНА.**

---

### ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ: ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

**10 снежня 1948 года Асамблея ААН аб'явіла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека — маральны кодэкс, заклікаикі гарантаваць мужчынам, жанчынам і дзецям усяго свету права на бяспечнае і годнае жыццё. А калі ідзе жорсткая вайна, размова пра нармальнае жыццё ўжо не вядзецца. І людзі пачынаюць шукаць прытулку за межамі сваёй краіны, ператвараючыся ў бежанцаў. Менавіта па гэтай прычыне пакінула сваю радзіму Афганістан сям'я Нахід СУРУШ.**



# Нахід СУРУШ: «У МІНСК ПАКЛІКАЛІ БАЦЬКІ, ЯНЫ СКАЗАЛІ: ТУТ НАМ БУДЗЕ ДОБРА...»

— Было страшна, невыносна там жыць. А калі да ўлады прыйшлі талібы, жанчынам забаранілі працаваць і нават адным выходзіць на вуліцу, — расказвала мне на дрэннай рускай мове, за якую адразу папрасіла прабачэння, мілавідная, з добрымі вачыма Нахід.

**— Нахід, а як вы апынуліся на Беларусі і чаму выбралі менавіта нашу краіну?**

— Спачатку былі Казахстан, Масква, а пазней Беларусь (Мінск). 7—8 гадоў назад сюды прыехалі мае бацькі, а потым паклікалі і нас. Бацька сказаў, што гэта вельмі спакойная краіна і нам тут будзе добра. І вось ужо 6 гадоў, як жывём у Мінску.

**— Ці атрымалі вы статус бежанца?**

— Так, нам пашчасціла атрымаць статус бежанца. Зараз нашым знаёмым не ўдаецца гэта зрабіць. Я разумею, вам таксама цяжка, і таму, мабыць, няма магчымасці даваць статус усім жадаючым.

**— Раскажыце, калі ласка, як склаўся далейшы лёс вашай сям'і. З якімі цяжкасцямі сутыкнуліся?**

— Бацькі мае (бацьку 70 гадоў, а маці 55) не працуюць, атрымліваюць дапамогу ў памеры 60 долараў ЗША (50 долараў галаве сям'і, плюс астатнім членам сям'і па 10 долараў). Здымаюць кватэру, якую аплачвае мой старэйшы брат.

Муж, Ахмед Нор Суруш, — былы ваенны, зараз працуе на рынку прадаўцом. У нас трое дзяцей. Старэйшыя, сын Загал і дачка Бялял, наведваюць школу (чацвёрты клас). А малодшая дачка Саман, якая нарадзілася ўжо ў Мінску, у гэтым годзе пайшла ў дзіцячы сад.

У мяне была вялікая праблема з рускай моваю. Не гавару ўжо пра беларускую. Я вырашыла: мне б хаця адну засвоіць, таму два гады назад скончыла курсы па рускай мове ад грамадскай арганізацыі Чырвоны Крыж. Па адукацыі — настаўнік, сёлета прайшла па конкурсу і зараз працую настаўніцай першага класа ў кансультатыўным цэнтры для дзяцей афганскіх бежанцаў пры Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Эўрыка" Фрунзенскага раёна. У мяне ў класе дзеці ад шасці да адзінаццаці гадоў, адной дзяўчынцы, праўда, 15. Выкладаю на роднай мове матэматыку, чытанне, мовы дары і пушту, гісторыю, чалавек і свет, другі настаўнік выкладае ім рускую мову. І сваіх дзяцей я прыводжу сюды, каб удасканальвалі веды па роднай мове, бо атрымліваецца, што яны лепш ведаюць рускую мову, чым сваю родную. На маю думку, вельмі важна, каб дзеці разумелі, не забывалі родны мовы. І я рада, што магу ім у гэтым дапамагчы. Люблю і хачу працаваць на карысць свайго народа.

Праблем, канешне, хапае: здымаем кватэру за 70 долараў; не можам прапісацца, кожны месяц плацім за рэгістрацыю, такім чынам, узнікае і матэрыяльная праблема таксама.

Але ж неяк прыстасоўваемся да жыцця. Даводзіцца нават крыху парушаць свае нацыянальныя традыцыі: напрыклад, майкі-футболкі наша рэлігія дзяўчатам не дазваляе насіць, але ж дачка просіць — купляем.

**— А як складваюцца адносіны з беларусамі?**

— Вельмі цёплыя адносіны. Беларускі народ добразычлівы, вясёлы.

Памятаю, калі прапусціла некалькі заняткаў на курсах па рускай мове, выкладчыца патэлефанавала і запытала, чаму я не хаджу на курсы. Я адказала, што шмат працы дома. А яна гаворыць: "Не кідайце курсы, бо ж тут жывяце і куды б ні звярнуліся, трэба ведаць мову".

У нашых дзяцей у школе вельмі добрыя настаўнікі, дапамагаюць ім у вучобе. Не раз прыходзілі да нас дадому. Мы ж з мужам практычна не можам нічым дапамагчы.

Бялял і Загал з задавальненнем гуляюць з аднагодкамі. Сын любіць футбол.

Сябруем з суседзямі. Яны часта прапаноўваюць нам рэцэпты беларускіх страў. У асноўным прытрымліваемся сваёй нацыянальнай кухні, але і ваша бульба з рыбаю прыйшлася нам даспадобы.

Падтрымліваем сувязь і з афганскімі сябрамі, якія таксама апынуліся тут.

А яшчэ ў размове Нахід сказала, што любіць чысціню і парадак, працу і, вядома, сваю радзіму, вельмі сумуе па ёй. Калі з'явяцца спрыяльныя ўмовы, будзе ўсё добра і спакойна, яны абавязкова вернуцца ў Афганістан.

Гутарыла
**Святлана КАРПУЧОК.**

НА ЗДЫМКАХ: дзеці Нахід Суруш: Бялял, Саман і Загал; Нахід СУРУШ з вучнямі.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

---

### ЗДАРЭННІ

Скафандр вядомага лётчыка-касманаўта СССР, нашага земляка Пятра Клімука ўкрадзены з музея касманаўтыкі, які знаходзіцца ў вёсцы Тамашоўка ў будынку мясцовай школы. Рабаўнікі, якія выламалі замкі і знялі металічныя дзверы з петляў, дзейнічалі вельмі хутка: укралі касмічны скафандр, гідракамбінезон, трэніровачны касцюм з тоўстай тканіны, вязаную шапачку і цеплаахоўны касцюм, што надзяваецца пад скафандр і камбінезон. Усе гэтыя рэчы каля 20 гадоў назад былі перададзены ў дар музею самім Пятром Клімуком. Дарэчы, дзіўна, але ахоўная сігналізацыя ў момант крадзяжу па нейкіх прычынах была ў няспраўным стане. Вартаўніка ў гэты час у школе-музеі таксама не было. Магчыма, злодзеі нядрэнна ведалі пра некаторыя нюансы аховы музея. Цікава і тое, што астатнія экспанаты засталіся цэлымі і непапсаванымі. Няўжо злодзеі збіраліся ў касмічную прастору ў касцюме знакамітага земляка? Ва ўсякім разе, міліцыянеры лічаць справай гонару ў бліжэйшы час знайсці злодзеяў.

АСОБА

*Сёлета знакамітаму беларускаму драматургу Аляксею Дудараву споўнілася 50 гадоў. Узрост выдатны! Тым больш для Аляксея Ануфрыевіча, бо ён адзін з тых творцаў на Беларусі, хто можа з высока паднятай галавою азірнуцца назад...*

*Лёс пісьменніка зайздросны. Ухапіўшы за "хвост" славу яшчэ ў сацыялістычныя часы, ён ніводным радком у сваіх творах не пакрывіў душой. Пісаў заўсёды так, як думаў, чым не можа сёння пахваліцца пераважная большасць нашых так званых "чараўнікоў пяра"...*

*Здавалася б, сама фартуна вяла гэтага чалавека. Скончыўшы айчынны тэатральна-мастацкі інстытут, Дудараў, тым не менш, акцёрам не стаў, а праявіў сябе ў драматургіі. "Выбар", "Парог", "Вечар", "Радавыя", "Князь Вітаўт" прынеслі пісьменніку шырокую вядомасць. А хто не глядзеў, не захапляўся кінастужкай "Белыя росы"?! Так-так, сцэнарый да яе напісаў ён, наш Аляксей Дудараў!*

*Па таленту, як кажуць, і пашана: драматург — двойчы лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі.*

*Сёння Аляксей ДУДАРАЎ — госць "Голасу Радзімы".*



## Аляксей ДУДАРАЎ:

# «УСЁ БУДЗЕ МЯНЯЦЦА, АЛЕ МАРУДНА...»

**— Аляксей Ануфрыевіч, мяне заўсёды цікавіла пытанне, як пісьменнік можа пісаць пра тое, што сам не перажыў. Тым больш тое дзіўна, калі ягоны твор карыстаецца поспехам... Вы не ваявалі, але вашых "Радавых" прымалі на "ўра!" — і не толькі на тэатральных пляцоўках роднай Бацькаўшчыны, а і ў Маскве, іншых расійскіх гарадах. У чым сакрэт?**

— Так, людзі плакалі. І не толькі ветэраны, але і маладыя гледачы. Памятаю, зайшоў неяк у Купалаўскі тэатр (а толькі скончыўся спектакль), іду па калідоры, гляджу: стаіць дзяўчына і натуральна рыдае. Думаю, адбылося нешта страшнае: кашалёк укралі ці то пакрыўдзілі моцна... Падбягаю, пытаю, што здарылася. А яе сяброўка адказвае: "Не, нічога, усё нармальна. Гэта на яе так спектакль падзейнічаў..." Божа ж мой! Узяў яе праграмку, падпісаў... Дзяўчо зусім, гадоў 16...

**— Значыцца, каб напісаць аб чымсьці, асабіста не перажытым, вам дастаткова "ўлезці ў шкуру" таго ці іншага чалавека альбо падзеі?**

— Відаць, так. Дакладней, не ўлезці, а прымераць тую шкуру на сябе: маўляў, апынуўся ў такой сітуацыі — што буду рабіць?.. Імкнешся неяк растрывожыць сябе, пагрузіцца ў тыя ці іншыя нечалавечыя ўмовы. Шчыра кажучы, "Радавыя" мне даліся няпроста. Пісалася п'еса хутка, але неаднойчы адрываўся ад паперы, бо перашкаджалі слёзы. Тады адчуваў, нібы сам апынуўся там, на перадавой. Я ў тыя сітуацыі проста верыў. А калі пачуцці ў нешта ўліваюцца, яны не могуць не ўздзейнічаць на людзей. Няхай гэта песня, верш, музыка, скульптура... Калі ў твор укладзена душа, ён — працуе. Адбываецца нейкае невытлумачальнае таінства.

**— Але ж гэта — вялікая праца...**

— Так, сэрца, душы ці то яшчэ Бог ведае чаго... Адным словам, калі твая работа табе самому неабыякавая, з'яўляецца нейкая сувязь з космасам, а праз яго — з мінулым. І яна, тая сувязь, — існуе. Проста адны яе адчуваюць, а другія — не. У мяне, між іншым, чамусьці заўсёды атрымлівалася пісаць пра старых, калі я сам быў зусім малады. Той жа "Вечар" з'явіўся на рубяжы майго 30-годдзя. Цяпер жа, бліжэй да пенсіі, пішу пра маладых.

**— Калі вы ўжо згадалі гэты ваш твор... Калгаснае будаўніцтва адбіла ў людзей нармальную ахвоту працаваць, па-гаспадарску ставіцца да роднай зямлі. Гэтая лінія, як я зразумеў, — асноўная ў "Вечары". Аляксей Ануфрыевіч, вёска вымірае. Як яе ажывіць, утрымаць моладзь ад уцёкаў у гарады?**

— Нічога я тут не магу сказаць. І справа нават не ў тым, што маладыя бягуць. Мы — народ, які нічога... не хоча. У нас толькі адно жаданне — "абы вайны не было..." Я не ведаю, як быць. Народ — "не хотит!" Так-так, менавіта — "не хотит".

Людзі, як вядома, у большасці сваёй думаюць "аб хлебе надзённым". А чаго аб ім думаць, скажам, сёння?! Не галадаем жа! Так, цяжка, але такога гора, якое перажылі мае бацькі — калектывізацыя, калгасы, вайна, голад да яе і пасля, — няма! Чаму ж пра душу не падумаць?! Усё гэта ў "Вечары" я і паспрабаваў паказаць.

Цяжка пра гэта гаварыць. Мы вельмі многае ідэалізавалі — тыя, хто займаўся творчасцю. У нейкай ступені тая ідэалізацыя прысутнічае і ў маім творы. Але ж ёсць у ім і іншае: паўтаруся, мы нічога не хочам... "Абы вайны не было", ды яшчэ — каб дзеці часцей наведвалі.

**— Сумна!**

— Безумоўна. А што рабіць? Для нас, беларусаў, суцяшэнне толькі ў адным: каго Бог любіць, таго і карае. Тыя ж, на каго ён ужо махнуў рукой, — жывуць, як хочуць. І ў іх, як быццам, усё добра.

**— А чаму, скажам, Мульцік спакойна адносіцца да смерці, а Гастрыт яе панічна баіцца? Яны ж — равеснікі: першаму — 80, другому — 78.**

— Мульцік размаўляе з Сонцам. Няхай ён у нейкай ступені не хрысціянін, а язычнік, але для мяне любы веруючы чалавек — веруе ён у Алаха, Ісуса, Магамета ці Буду — брат. А Гастрыт — не верыць. Аднак і ў ягоным сэрцы — няхай за паўхвіліны да смерці — адбываецца ачышчэнне. І гэта таксама добра.

У кожнага чалавека ў душы ёсць месца, дзе жыве вера. Калі яно запаўняецца пустэчай (а святое месца, як вядома, пустым не бывае), адбываецца трагедыя. Вось кажуць: няма ўва мне Бога, у мяне свой Бог... А Гасподзь жа — быў! Яго — Сапраўднага, мараль ягоную — з душы выгналі і замянілі Д'яблам. У асобе таго ж Іосіфа Вісарыёнавіча... Ці то Гітлера, Леніна, яшчэ каго-небудзь. Аднак ад гэтага ў першую чаргу пакутуе сам чалавек, які дазволіў з сабою тое зрабіць. Страшэнна пакутуе — і на гэтым свеце...

**— Аляксей Ануфрыевіч, дык калі, на ваш погляд, адбываецца тое вялікае пераадоленне страху — боязі паміраць?**

— Калі нараджаецца вера, калі яна мацнее. Неяк падчас адной гутаркі мяне запыталі, ці баюся я смерці. Так, я яе баюся. І гэта гаворыць пра маю духоўную недасканаласць. Да смерці трэба ставіцца сур'ёзна, але без боязі ці панікі: яна такая ж натуральная, як і нараджэнне...

**— Многіх таленавітых, геніяльных людзей на працягу іх зямнога існавання дапякае непрыстасаванасць да паўсядзённасці. Ці могуць, на вашу думку, суіснаваць такія розныя паняцці, як творчасць і грошы?**

— Чаму не? Пачнем з таго, што "Станцыйны даглядчык", "Капітанская дачка" былі напісаны Аляксандрам Пушкіным дзеля грошай. І гэта абсалютна нармальна! Зарабляў на хлеб. У яго была тая ж самая прафесія, за якую трэба плаціць. Я не разумею, чаму ў нашым грамадстве пашырылася меркаванне, што творчы чалавек павінен быць галодным.

**— Аляксей Ануфрыевіч, дазвольце банальнае пытанне — пра каханне. На ваш погляд, ці магчыма перажыць гэтае пачуццё двойчы?**

— Чаму не? І не толькі двойчы...

**— Не, калі пасля расстання — хоць памірай...**

— Ну-у, калі так ставіць пытанне, гэта справы юначыя: рамэоджульетаўшчына! Дзяцінства: маўляў, усё, я згубіў галаву, свету не бачу, без яе (яго) нікога не трэба... Аднак, калі падобнае адбываецца ў сталым узросце, гэта — хвароба. Каханне — цуд, мною вітаецца, калі не нясе бяды: ветрык добранькі я вельмі люблю. Але калі гэты вецер пачынае круціць, вырываць дрэвы з каранямі — гэта ўжо бедства.

**— Але ж Лермантаў, Ясенін перажылі страшэннае, вар'яцкае каханне...**

— Давайце не будзем спасылацца на геніяў. Па-першае, яны Паэты! А ў іх заўсёды ўсё "з плюсам". Па-другое, на маю думку, паэты — заўсёды не вельмі адказныя людзі. У іх прыпынілася творчасць — усё, канец: п'ю, гуляю, тое-сёе... Высока ў небе лётаюць.

**— Але ж чым вышэй узлёт, тым больш балюча падаць...**

— Бясспрэчна. У гэтым і ёсць нейкая ці то загадка, ці то парадокс: з чалавекам адораным жыць складана, з таленавітым — цяжка, а з геніяльным — немагчыма...

**— Хацелася б ведаць, якія рысы характару вы больш за ўсё паважаеце ў жанчыне, мужчыне?**

— Жанчына павінна быць добрай і Маці. У мужчынах жа болей за ўсё цаню прыстойнасць — ва ўсіх адносінах, наколькі гэта магчыма.

**— А лянота? Ёсць меркаванне, што яна — верная сяброўка ўсіх творцаў...**

— О! Я страшэнны гультай: чыстага аркуша паперы, як чорт ладану, баюся. Для мяне пачаць работу — сапраўдны подзвіг. Далей ужо — пасля другой, трэцяй старонкі — наступае поўны кайф. А ў цэлым — люблю проста нічога не рабіць. І ўпэўнены, што ўсе мы такія, акрамя, канешне, — геніяў. У іх псіхіка іншая: не дае ленавацца.

**— Ну а ў цэлым, на ваш погляд, жыццё палепшыцца?**

— Думаю, так. Усё будзе мяняцца. Але марудна...

Гутарыў **Алесь МЯСНІКОЎ.**

СПАДЧЫНА

# БУСЛЫ ГНЯЗДЗЯЦЦА Ў ТУРАВЕ

Сёлетні год пазначаны святлом высокай духоўнасці, бо менавіта цяпер, на рубяжы тысячагоддзяў, мы святкуем 1020-годдзе Турава і 870-годдзе знакамітага славянскага асветніка Кірылы Тураўскага. Таварыства Кірылы Тураўскага і Гомельская спецыялізаваная славянская бібліятэка арганізавалі і правялі міжрэгіянальную навуковую канферэнцыю "Гуманістычны і хрысціянска-духоўны змест спадчыны Кірылы Тураўскага". Пленарнае пасяджэнне ў Гомельскім грамадска-культурным цэнтры адкрыў В. Сяліцкі — прэзідэнт Таварыства Кірылы Тураўскага, старшыня абласнога Савета дэпутатаў, кандыдат эканамічных навук. Ён шчыра вітаў удзельнікаў канферэнцыі — навукоўцаў, якія сабраліся з Мінска, Гомеля, Магілёва, Мазыра, каб яшчэ раз асэнсаваць моцны духоўны падмурак нашай славяна-праваслаўнай цывілізацыі, які фарміраваў сваімі малітвамі, прытчамі, павучаннямі і Кірыла Тураўскі. Удзельнікі канферэнцыі разглядалі гістарычныя, філасофскія, педагагічныя погляды вялікага гуманіста мінуўшчыны, адметнасць мовы яго твораў. Затым работа вялася па секцыях. Матэрыялы міжрэгіянальнай навуковай канферэнцыі выдадзены асобным зборнікам і з'явяцца цудоўным дапаможнікам не толькі вучоным-гуманітарыям, але і ўсім, хто цікавіцца духоўнай спадчынай беларускага народа.

Удзельнікі міжрэгіянальнай навуковай канферэнцыі наведалі старажытны Тураў, душой дакрануліся да гэтай святыні зямлі славянскай. Урачыстасці з нагоды 1020-годдзя Турава і 870-годдзя Кірылы Тураўскага адкрылі старшыня Жыткавіцкага райвыканкама П. Савіцкі і старшыня Тураўскага пасялковага савета М. Арцюшка. Пра веліч чалавека, які ў XII стагоддзі закладваў асновы славяна-праваслаўнай цывілізацыі, умацоўваў хрысціянства, згадаў у сваім звароце да тураўчан прэзідэнт Таварыства Кірылы Тураўскага В. Сяліцкі. Ён пажадаў, каб землякі асветніка былі вартыя яго, мацавалі духоўнасць, славянскае адзінства. Традыцыйны хрэсны ход вернікаў быў узвышаны ўдзелам у ім Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Усклаўшы кветкі да помніка Кірылу Тураўскаму, уладыка звярнуўся з вітаннем да ўдзельнікаў міжрэгіянальнай навуковай канферэнцыі, усіх прысутных на свяце, зазначыўшы, што праз пяць гадоў будзе адзначацца 1000-годдзе Тураўскай епархіі.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**

КРОПКА НА КАРЦЕ



## ВІЦЕБСК. АБРЫСЫ ГОРАДА

Некалі ў IX стагоддзі гэтыя масціны ля ракі Віцьба аблюбавалі крывічы. Неаднойчы пасля разбуральных нашэсцяў горад аднаўляўся. І сёння ў ім шмат надзвычай прывабных, утульных куткоў.

НА ЗДЫМКАХ: гарадская ратуша — Віцебскі краязнаўчы музей; рака Заходняя Дзвіна ў Віцебску.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



КОРАТКА

**СПАДЧЫНА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА.** Да юбілею Уладзіміра Караткевіча Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны рыхтуе унікальнае выданне. Яно будзе называцца "Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным кантэксце". У кнігу ўвойдуць работы вучоных, літаратараў і сяброў Уладзіміра Сямёнавіча з дзесяці краін.

**ПІСЬМЕННІЦА СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ** нядаўна вярнулася з Японіі, дзе ўдзельнічала ў рабоце над дакументальна-мастацкім фільмам "Маленькі чалавек і вялікая утопія", які ствараецца японскай тэлекампаніяй NHK у рамках праекта "XX стагоддзе ў Расіі. Краіна-утопія". У фільме прадстаўлены лёс самой Алексіевіч, перапляцены з лёсамі герояў яе твораў. Здымкі фільма праводзіліся ў Беларусі, на Украіне, у Маскве, Санкт-Пецярбургу і на Урале. Паказ гэтага 75-хвіліннага фільма па японскім тэлебачанні адбудзецца ў кастрычніку.

**І. Г.**



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

# З ПАКАЯННЕМ У НОВАЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

## СВЯШЧЭННІК ФЁДАР КРЫВАНОС ВЫЯВІЎ 330 ІМЁН РЭПРЭСІРАВАНЫХ СВЯТАРОЎ. 23 З ІХ КАНАНІЗАВАНЫ



Пачатак на 1-й стар.

Доўгая праца ў архівах, скрупулёзнае вывучэнне так званых "следчых спраў" (нярэдка яны былі ўжо "выпатрашаныя" — з іх выняты дакументы, якія найбольш кампраметавалі ўладу), прынеслі свой плён: з'явіўся спіс — Сінодзік за веру і царкву Хрыстову, што пацярпелі ў Мінскай епархіі (1918—1951 гады). Работа вялікая, значная. Але, як лічыць айцец Фёдар, далёкая ад завяршэння. Не ўсю інфармацыю ўдаецца здабыць: шмат чаго захоўваецца ў архівах Федэральнай Службы Бяспекі Расіі, шмат чаго проста згінула, а жывых сведкаў тых год амаль не засталося. Але айцу Фёдару дапамагалі сваякі рэпрэсіраваных свяшчэннікаў.

**Просьба да ўсіх, хто што-небудзь ведае яшчэ пра кагосьці з тых людзей, якія пацярпелі ў гады ганенняў за веру праваслаўную ў Мінскай епархіі, паведаміць пра гэта свяшчэнніку Фёдару Крываносу, які служыць у Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы і, працягвае збор звестак пра пацярпелых. Складальнік сінодзіка быў бы глыбока ўдзячны за ўсякае паведамленне, якое пралье дадатковае святло на гэтую тэму.**

**Дасылайце вашы пісьмы на адрас: 220012, горад Мінск, вул. Талбухіна, 8-8. Тэл. 266-07-44. А лепей, пры магчымасці, тыя ці іншыя звесткі перадаць непасрэдна свяшчэнніку Фёдару.**

Трэба адзначыць, што, складаючы гэты журботны спіс, айцец Фёдар меў сапраўды хрысціянскі падыход: ён уключыў у яго ўсіх, каго здолеў выявіць, хто трапіў у жорсткія антырэлігійныя рэпрэсіўныя жорны. І тых, хто мужна і цвёрда трымаўся веры і Госпада, і абнаўленцаў, і тых, хто не перамог выпрабаванняў, — яны таксама ахвяры рэжыму. Увогуле, у спісе пазначаны не толькі архірэі, свяшчэннікі, але і манахі, псаломшчыкі, рэгент, простыя веруючыя прыхаджане. Усяго 330 імён. Дваццаць тры асобы ў канцы мінулага года Беларускай Праваслаўнай Царквой былі кананізаваны — далучаны да ліку мясцова ўшанаваных святых. Вось іх імёны і гады гібелі:

- ✦ протаіерэй Уладзімір Хіраска — 1932
- ✦ протаіерэй Васіль Ізмайлаў — 1930
- ✦ іерэй Пётр Грудзінскі — 1930
- ✦ іерэй Валерыян Навіцкі — 1930
- ✦ іерэй Уладзімір Хрышчановіч — 1933
- ✦ іерэй Іаан Вячорка — 1933
- ✦ протаіерэй Сергій Радакоўскі — 1933
- ✦ іерэй Уладзімір Талюш — 1933
- ✦ протаіерэй Міхаіл Навіцкі — 1935
- ✦ протаіерэй Парфірый Рубановіч — 1937
- ✦ протаіерэй Міхаіл Плышэўскі — 1937
- ✦ протаіерэй Дзімітрый Паўскі — 1937
- ✦ протаіерэй Іаан Варанец — 1937
- ✦ протаіерэй Леанід Біруковіч — 1937
- ✦ протаіерэй Аляксандр Шалай — 1937
- ✦ іерэй Мікалай Мацкевіч — 1937
- ✦ іерэй Іаан Панкратовіч — 1937
- ✦ дыякан Мікалай Васюковіч — 1937
- ✦ протаіерэй Уладзімір Зубковіч – 1938
- ✦ протаіерэй Уладзімір Пастарнацкі — 1938
- ✦ іерэй Дзімітрый Плышэўскі – 1938
- ✦ архімандрыт Серафім Шахмуць — 1945
- ✦ протаіерэй Матфей Крыцук — 1950

Усе гэтыя людзі вартыя ўшанавання не толькі як рэлігійныя дзеячы, але і як мужныя, сумленныя, годныя грамадзяне сваёй краіны. За кожным з іх стаялі іх сем'і, блізкія, сябры, на чыіх лёсах таксама адбіліся няўмольныя абставіны таго перыяду. Часам гэта былі ўжо нават не драмы, а трагедыі. Калі чытаеш звесткі, сабраныя ці не па крупінках айцом Фёдарам у архівах, уражвае глыбіня чалавечых пачуццяў, схаваная за сухімі радкамі "следчых спраў". Вось вытрымка з пісьма іерэя Валерыяна Навіцкага да сваякоў у Заходнюю Беларусь: "У Мінску занялі кафедральны сабор і жаночы манастыр. Калі ў нас царкву зоймуць пад клуб, прыйдзецца магілу папы зраўняць з зямлёй, крыж і агароджу зняць, каб не было залішніх ганьбаванняў..." Айца Валерыяна расстралялі ў 1930 годзе ў лесе, папярэдне прымусіўшы выкапаць сабе магілу...

Іерэй Пётр Грудзінскі быў чалавекам адукаваным, у 1905 годзе на губернскім сходзе яго нават выбралі дэпутатам у 2-ю Дзяржаўную думу ад сялян. Служыў ён у вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна. Айца Пятра арыштавалі таксама ў 30-м. Ужо калі ён быў зняволены, мясцовыя актывісты ўнеслі прапанову: "ліквідаваць нараўне з усімі кулакамі і папа Грудзінскага за яго контррэвалюцыйную дзейнасць". Пажаданне ўлічылі і свяшчэнніка вельмі хутка "ліквідавалі". Але зноў-такі з перапіскі вядома, што арышт айца Пятра спарадзіў вялікую сямейную драму. "Прашу цябе, Пятрок, — пісала матушка Ірына Грудзінская, не вытрымаўшы выпрабаванняў, — калі ты шкадуеш мяне, адмоўся ад сваіх... перакананняў". "Дарагая Ірачка, — адказваў айцец Пётр, — тваё пісьмо ашаламіла мяне болей за арышт, і толькі ўсведамленне, што яно прадыктавана горам і нястачаю, трохі супакоіла мяне. Вось ужо хутка 24 гады, як мы жывем разам, і ты, родная, мела магчымасць пераканацца, што я заўсёды імкнуўся быць сумленным і справядлівым, што я ніколі на здзелкі са сваім сумленнем не ішоў... Адрачыся ад веры ў Хрыста... калі я набліжаюся да магілы?! Я не магу, не зраблю гэтага нават дзеля цябе, якую заўсёды любіў і люблю".

Протаіерэй Дзімітрый Паўскі быў настаяцелем царквы Святога Духа ў Астрашыцкім Гарадку, а да таго настаяцелем Мінскага кафедральнага сабора святых апосталаў Пятра і Паўла, выкладчыкам Мінскай духоўнай семінарыі. Яго арыштоўвалі некалькі разоў, апошні — у 1937 годзе. Тады, у чэрвені, стаяла моцная засуха. Айцец Дзімітрый адслужыў малебен, каб Бог дапамог людзям. Так здарылася, што, сапраўды, хутка пайшоў дождж. Сяляне, народ веруючы, загаварылі: "Памаліліся, і Гасподзь паслаў дождж". Пагалоска пра цуд дайшла і да ўлад, якія, як кажуць, не прайшлі міма. Вельмі хутка айцец Дзімітрый трапіў за краты і ўжо 14 жніўня быў расстраляны.

Часам намаганні ўлады знайсці крымінал у дзеяннях свяшчэннікаў насілі ці не анекдатычны характар. Напрыклад, пра протаіерэя Сяргея Радакоўскага з вёскі Таль Бабруйскага павета распаўсюджваліся плёткі, нібыта ён чакае праезду праз вёску Таль... рымскага папы! Глупства? Але ж айца Сергія арыштавалі і ў сакавіку 1933-га таксама расстралялі...

Для ўшанавання кананізаваных свяшчэннікаў іканапісцам Паўлам Жаравым была створана ікона, на якой адлюстраваны лікі ўсіх 23 святых. У працэсе работы ніяк не маглі знайсці партрэт аднаго са святароў. Павел Жараў намаляваў твар па натхненню. Як жа былі ўсе здзіўлены, калі пазней партрэт знайшоўся і амаль дакладна адпавядаў таму, што вывела на іконе рука іканапісца!

Для многіх з нас паняцце "святы" носіць даволі абстрактны характар. Але ж даследаванне, што ажыццяўляе Беларуская Праваслаўная Царква, айцец Фёдар Крываноc пераконвае: жыццё і рэлігія непадзельныя, і цяжка выявіць, што ідзе наперадзе.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

НА ЗДЫМКУ: айцец Фёдар КРЫВАНОС з іконай, на якой адлюстраваны лікі 23 кананізаваных святароў.

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# СВЯТЫЯ ПАКРОВЫ ЗЯМЛЮ ЗАСЦІЛАЮЦЬ

**Прачыстая — цыкл хрысціянскіх восеньскіх святаў, звязаных з імем Прачыстай Дзевы Марыі: 15 (28) жніўня адзначаюць дзень смерці Божай Маці, 14 (27) верасня — дзень нараджэння Багародзіцы, і 14 кастрычніка праваслаўныя вернікі святкуюць Пакровы Прасвятой Багародзіцы. У народным календары гэтыя святы вядомыя як Першая, Другая і Трэцяя Прачыстая.**

Найбольш важнае значэнне беларусы надаюць Першай Прачыстай. У гэты дзень, паводле хрысціянскіх літаратурных крыніц, Маці Божая скончыла сваё існаванне. Напярэдадні смерці яна пражывала ў Іерусаліме і часта наведвала гару Галгофу, дзе малілася над трунойсына. Аднойчы да яе з'явіўся Архангел Гаўрыіл і апавясціў аб чакаемай канчыне. Каб прыняць смерць, Прасвятая Дзева Марыя вярнулася на зямлю продкаў, у горад Віфлеем, дзе і перадала Госпаду Ісусу Хрысту сваю душу. Да гэтага свята быў прымеркаваны язычніцкі земляробчы звычай асвячэння семяннога зерня, а адразу пасля Прачыстай пачынаўся пасеў азімага жыта і пшаніцы. Па традыцыі восеньскае засяванне поля пачыналі з аўторка, чацвярга або суботы.

Свята Пакровы, што прыпадае на 14 кастрычніка, звязваецца з канкрэтнай падзеяй, якая быццам бы мела месца ў сярэдзіне X стагоддзя ў горадзе Канстанцінопалі. Тады падчас начнога малення ў царкве вернікі ўбачылі Дзеву Марыю, якая спусцілася да людзей і доўгі час малілася за ўсіх хрысціян, а пасля зняла свой галаўны пакроў і распасцерла яго над усімі, хто прысутнічаў у храме, абараняючы такім чынам ад бачных і нябачных ворагаў.

У народным календары назва Пакровы атаясамліваецца таксама з пакровам зямлі, што праяўлялася ў заканчэнні ўсіх палявых работ. Зямля, як тлумачылі старэйшыя людзі, павінна адпачыць да наступнага лета, і чапаць яе пасля Пакроваў ні ў якім разе не дазвалялася. "Бог пячатае зямлю пасля Пакроваў", — гавораць у народзе. Нават у шукальнікаў скарбаў бытуе павер'е, што шукаць нешта ў зямлі пасля гэтага свята — безнадзейная справа. У гэты дзень звярталі ўвагу на накірунак ветру. Калі ён дзьмуў з поўначы, лічылася, што зіма будзе лютай, з завеямі, калі ж з поўдня — мяккая, з адлігамі. У гэты дзень звычайна гулялі вяселлі, а незамужнія дзяўчаты, якія жадалі стварыць сям'ю, ішлі ў царкву, ставілі перад іконай Маці Божай свечку і маліліся-прыгаворвалі: "Святы Пакроў, пакрыў ты і зямлю, і ваду — пакрый вянцом і мяне маладу".



Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

Падрыхтавала **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

ПАЛОМНІЦКІ ШЛЯХ



Нядаўна па дарогах Беларусі праходзіў шлях хрысціянскіх паломнікаў. На такі пераход адважылася група моладзі праваслаўнага брацтва імя Кастуся Астрожскага, заснаванага пры Петрапаўлаўскім саборы горада Мінска. Паломніцкі шлях пралягаў з Гродна праз Скідзель, Масты, Ваўкавыск, Зэльву, Сынкавічы, Жыровічы.

Ідэя адраджэння паломніцкага шляху належыць манаху Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра айцу Філіпу, які ў свой час і блаславіў яго. Першы такі паломніцкі шлях быў адроджаны ў 1991 годзе. Кожны год маршрут пралягае праз розныя мясціны, але канчатковы пункт яго заўжды адзіны — Жыровіцкі Свята-Успенскі сабор.

Пілігрымаў гэтага паломніцкага шляху блаславіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

Удзельнікі шляху мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца са святынямі праваслаўя — неацэнным набыткам беларускага народа, пагутарыць з людзьмі. На тэрыторыі Зэльвеншчыны паломнікі пабывалі ў Сынкавіцкай царкве-крэпасці, якая, дарэчы, з'яўляецца помнікам дойлідства XV—XVI стагоддзяў. У гэтым раёне да групы паломнікаў далучыліся яшчэ некалькі пілігрымаў, якія знарок прыехалі са сталіцы. І нават гэтае непрацяглае знаходжанне на Зэльвеншчыне ім запомнілася. Пілігрымы паломніцкага шляху пабывалі на магіле славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш (на здымку), добрай праваслаўнай верніцы, усклалі кветкі на магілу, была адслужана паніхіда.

Усюды ў цэрквах на шляху паломнікаў вяліся богаслужэнні.

**Пётр ЖЭБРАК.**



У сталіцу Беларусі прыйшло вялікае фатаграфічнае свята — фестываль мастацкай фатаграфіі "Сутокі", прысвечаны 40-годдзю народнага фотаклуба "Мінск".

Дакладна кажучы, фестываль заявіў пра сябе яшчэ ў пачатку года серыяй персанальных выстаў, на якіх сваю творчасць паказалі вядучыя фотамастакі Сяргей Кавалёў, Аляксей Паўлюць, Валерый Сібрыкаў, Альберт Цэхановіч.

Кульмінацыяй свята фотамастацтва стала адкрыццё ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі трох выстаў. З творчасцю майстроў айчыннай фатаграфіі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў знаёміла экспазіцыя "Беларускі фотаальбом". Побач размясцілася фотавыстава "Рэтра-2", якая прадстаўляла творчасць членаў фотаклуба "Мінск" у 60-я—80-я гады. А госці фестывалю з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Германіі пазнаёмілі майстроў фотамастацтва са сваёй творчасцю. Дарэчы, многія з іх прыехалі ў Мінск на свята, і ў аматараў фотамастацтва была магчымасць сустрэцца з імі ў выставачных залах, пагутарыць аб іх творчых пошуках і атрымаць шэраг практычных парад. Польскія фотамастакі Хенрык Рагазінскі і Веслаў Турна падрабязна расказалі пра сваю працу ў складанай тэхніцы чорна-белай і каляровай "гумы". Вельмі цёпла прынялі гледачы вялікую праграму каляровых слайдаў хірурга і фатографа з Беластока Паўла Свянткевіча. А член фотаклуба "Мінск" Йорг Айднер з Германіі падзяліўся практыкай апрацоўкі фотаздымкаў на камп'ютэры. (Выставу яго работ мінчане змогуць убачыць у канцы гэтага года).

На другі дзень фестываль працягваўся ў Траецкім прадмесці, дзе ў Музеі гісторыі літаратуры адкрылася выстава "Мастацкая фатаграфія фотаклуба "Мінск" 90-х гадоў", і ў Нацыянальнай бібліятэцы, дзе разгарнуў персанальную выставу адзін са старэйшых членаў фотаклуба заслужаны дзеяч культуры Юрый Васільеў.

Такім чынам, фестываль "Сутокі" даў магчымасць убачыць беларускую фатаграфію на фоне развіцця сусветнага фотамастацтва. Завяршыўся фестываль бліц-пленэрам у маляўнічай даліне ракі Іслач.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё фестывалю ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры; удзельнікі фестывалю "Сутокі" — член фотаклуба "Мінск" фотажурналіст Марыя ЖЫЛІНСКАЯ і замежны член фотаклуба Йорг АЙДНЕР (Германія); госці фестывалю фотамастакі Павел СВЯНТКЕВІЧ і Хенрык РАГАЗІНСКІ з Польшчы і старшыня фотаклуба "Гродна" Аляксандр ЛАСМІНСКІ.

**Фота аўтара.**





**ДЭТЭКТЫЎНАЕ АПАВЯДАННЕ**

# НЯЧЫСТАЯ СІЛА

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

...Вось і могілкі. Стаяць, нібы глухая варожая сцяна. У душу Алены пракраўся страх. Яна ўспомніла малітву да анёла-ахоўніка, якой навучыла яе бабуля, і хутка-хутка зашаптала:

— Святы анёле, памочнічак стурбаванай душы маёй, крапатлівага жыцця майго, не адыходзь ад мяне за нястрымнасць маю, не дай злому духу сілком завалодаць смяротным целам маім.

Адчыніўшы металічныя заржавелыя вароты, Алена пайшла па пратаптанай людзьмі сцежцы. Навокал абгароджаныя магілы, некаторыя яшчэ свежыя, бялеюць у цемры грудкамі.

— Узмацні знямоджаныя й слабыя сілы мае і накіруй мяне на край збаўлення, — прашаптала яна і зірнула ўбок. Каля самай сцежкі помнік, на якім выбіта роўнымі белымі літарамі: "Дарагому тату і дзядулю..."

Можа, вярнуцца назад, улезці праз акно ў хату і паціхеньку легчы на ложак, з галавой накрыўшыся коўдрай?

Не, яна павінна пераадолець страх. Вунь там, каля кустоў бэзу, дзе заліваецца песняй салоўка, растуць суніцы. Ці знойдзе яна іх у траве? Ліхтарыка з сабою не ўзяла, забылася...

— Так, святы анёле Божы, абаронца й ахоўнік мае беднае душы й цела, — мацней прашаптала Алена, — усё мне выбач, чым я крыўдзіла цябе праз усё жыццё маё, і калі я ў нечым зграшыла мінулае ночы, заступіся за мяне гэтага дня і ахавай мяне ад усякае згубнае спакусы, каб я ніякім грахом не ўгнявіла Бога, і маліся за мяне да Госпада, каб Ён даў мне добры поспех і зрабіў мяне годным слугою дабрыні Свае.

Алена не паспела закончыць малітву словам "амін", бо з кустоў бэзу нечакана вылезла жанчына ў чорным. На яе твары расплываліся крывавыя пісягі. Алена застыла слупам, а жанчына ў чорным замахнулася на яе малатком, прагудзеўшы сярдзіта, як чмель:

— У-у-у!..

Алена ўскрыкнула і, страціўшы прытомнасць, упала на пакрытую расою траву. Жанчына ў чорным узяла яе за руку.

З другога канца вёскі даносілася вясёлая музыка баяна.

— Пульс б'ецца, не памерла, — прагаварыла жанчына ў чорным. Адпусціўшы Аленчыну руку, яна кінула ёй на грудзі лісток паперы і, насвістваючы, пакрочыла па сцежцы.

5

Пецю разбудзіў пяцігадовы брацік Міколка.

— Пеця, уставай. Тонік на вуліцы цябе чакае.

Міколка замест літары "л" вымаўляе літару "н", і таму імя Толік у яго гучыць як Тонік. Вясною ён, Пеця, два месяцы з ім займаўся, каб правільна навучыць гаварыць. Толькі час змарнаваў.

— Бацька дома? — пацікавіўся ў брата Пеця.

— На работу пайшоў.

— А маці?

— Мама ў горад чарэшні павезла прадаваць, — паведаміў Міколка.

Пеця ўстаў, надзеў кашулю, нагавіцы, уступіў у шлёпанцы і выйшаў на двор. Толік сядзеў на лаўцы. Убачыўшы Пецю, ён імгненна ўскочыў, быццам яго напятая спружына падкінула.

— Пеця, у нашай вёсцы нячыстая сіла завялася!

Пеця ўсміхнуўся.

— Няўжо?

Толік аж расчырванеўся, стараючыся даказаць, што не хлусіць.

— Памятаеш, як нам учора Аленка пахвалялася, што ноччу на могілках суніцаў нарве?

Пеця рукою прыкрыўся ад сонца, якое свяціла яму ў твар.

— Пажартавала яна.

— Не, Пеця. Яна пайшла на могілкі, а там на яе напала нейкая жанчына ў чорным. Аленка са страху прытомнасць страціла. А калі апрытомнела, то каля сябе знайшла паперку, на якой было напісана: "Нячыстая сіла".

— Ты што вярзеш?

— Пеця, у Аленкі цяпер участковы Косця сядзіць, дапытвае яе.

Па Пецевым твары прабегла хмурынка.

— Хадзем.

Шырока расплюшчанымі вачыма Толік глядзеў на Пецю.

— Да Аленкі?

— Да Аленкі.

— А калі ўчастковы да нас прычэпіцца, у гэтую справу ўблытае?

— Мне няма чаго баяцца, — сказаў Пеця.

6

Накрыўшыся коўдрай, Алена ляжала на ложку. Побач на табурэтцы сядзеў участковы Косця, трымаючы на каленях скураную папку. Шчокі ў Аленкі разружавеліся, а вочкі гарэлі, як дзве зорачкі. "Як на Бога, глядзіць яна на ўчастковага", — адзначыў сам сабе Пеця, увайшоўшы з Толікам у Аленчын пакой.

— Добры дзень, хлопцы, — першым прывітаўся Косця.

— Добры дзень, — адказаў Толік, а Пеця спадылба зірнуў на Косцю.

Толік пераступіў з нагі на нагу.

— Аленка, мы чулі, што бяда з табою здарылася.

— Я ўжо забылася пра гэтую бяду, — неспадзявана сказала Аленка.

"Яна нас з Толікам хоча выправіць. Мы тут лішнія", — падумаў Пеця і без запрашэння сеў на крэсла, што стаяла каля масіўнага круглага стала.

— Хлопцы, мне хацелася б ведаць, дзе вы былі гэтай ноччу, — паволька, расцягваючы словы, ад якіх ён сам, відаць, атрымліваў асалоду, прагаварыў Косця.

Шчокі ў Толіка пабіла на чырвоныя плямы. Ён нават стаў заікацца.

— Я да г-гадзіны ночы быў у клубе на т-танцах, а потым з Пецем п-пайшоў дамоў. Пеця, так?

Пеця на грудзях скрыжаваў рукі, пальцамі памацаўшы пругкія мускулы.

— Хіба я павінен кожнаму даваць справаздачу?

Голас у Косці адразу змяніўся. Сталёвыя ноткі прагучалі ў ім:

— Не кожнаму, а ўчастковаму, якога да вас прыслалі, каб парадак навёў.

— Мабыць, у горадзе месца табе не знайшлося. Таму да нас прыслалі, — націснуў Пеця на слова "табе".

Толік спалохана зірнуў на Пецю, а Алена, надзьмуўшы губкі, з дакорам прамовіла:

— Пеця, не грубіянь.

Пецю цяпер ніхто не змог бы спыніць. Няхай ведае гэты лейтэнанцік, што не ён тут гаспадар. Прыслалі яго!.. Сёння прысылаюць, а заўтра забіраюць. А яму, Пецю, тут, магчыма, да старасці прыйдзецца жыць.

— Лейтэнант, на нас з Толікам справу ты не завядзеш, зорачку не заслужыш.

У лейтэнанта Косці, як і ў Толіка, твар пабіла на чырвоныя плямы.

— На могілках пакінулі запісачку з аўтографам "нячыстая сіла". Па почырку я злачынцу хутка знайду, на чыстую ваду выведу.

— Косця, не палохайце нашых хлопцаў. Тая жанчына ў чорным літары з газеты выразала і на паперку наклеіла, — сказала Алена, стараючыся спыніць спрэчку.

— Аленка, ты такая смелая! Адна на могілкі пайшла! — абы не маўчаць, уставіў сваё слова Толік.

Пеця кіўнуў галавою, паказаўшы на лейтэнанта.

— А ён змог бы ў дзве гадзіны ночы пайсці на могілкі? Як думаеш?

Толік шмаргануў носам.

— Не ведаю. Няхай сам скажа.

— Перастаньце! — усклікнула Алена. Яе вочы наліліся слязьмі.

Участковы Косця варухнуўся на табурэтцы.

— Я пайду на могілкі. Роўна ў дзве гадзіны ночы буду там.

Пеця падняў галаву і паглядзеў Косці ў вочы. У Косцевых вачах ён прачытаў выклік.

— Хлопцы! — у роспачы прамовіла Алена, не ведаючы, як ёй памірыць іх.

— Толік, хадзем. Тут нам няма чаго рабіць, — сказаў Пеця.

— Што ж, і мне пара, — устаў з табурэткі лейтэнант Косця.

7

— Уваскрэсне Бог, і рассыплюцца ворагі Ягонія, і ўцякуць усе, хто ненавідзіць Яго, ад аблічча Ягонага. Як разыходзіцца дым, так няхай знікнуць яны, як тае воск перад агнём, так няхай д'яблы згінуць перад тымі, хто любіць Бога, хто ахінае сябе знакам Крыжа і ў весялосці кажа: "Радуйся, найсвяцейшы й жыццятворны Крыж Гаспадаў!" — лежачы на ложку, шаптала Алена.

Перапалоханая і знерваваная, яна малілася, каб зло абмінула яе і вёску. Упершыню яна зразумела, што жыццё — гэта не толькі падарунак Бога і людскога кахання, але і цяжкі камяністы шлях.

8

Вечарэла, калі да Алены ў хату, як віхор, уляцела Марына і паведаміла:

— Аленка, участковы Косця ноччу на могілкі збіраецца ісці!

Алена заплакала, тварам прытуліўшыся да падушкі.

— Аленка, чаго ты так расплакалася? — разгубілася Марына.

Алена рабром далоні правяла па вачах, выціраючы слёзы.

— Толік і Пеця з Косцем з-за мяне пасварыліся. Адчувае мая душа: быць бядзе. Я не хачу гэтага. Не хачу быць вінаватай!

Марына села на ложак.

— Няўжо хтосьці з тваіх кавалераў на цябе на могілках напаў? Можа, Пеця?

Алена ўздрыганулася.

— Сяброўка, нячыстая сіла на мяне напала, спакой адабрала!

— Аленка, ты ў нячыстую сілу верыш? — пацепнула плячыма Марына.

— Не ведаю. Дальбог не ведаю! — у задуменні прагаварыла Алена.

— Ты ж мне казала, што хочаш знайсці заморскага прынца, за якім пражывеш спакойна, як за каменнай сцяной!

Алена ўздыхнула.

— Прынцы, мабыць, не для нас. Марынка, я папрашу Косцю, каб не хадзіў на могілкі.

— Не паслухаецца, — сказала Марына.

— Ён мяне кахае. Я па вачах убачыла. Паслухаецца!

— Але ж і дурніца ты! — выгаварыла сяброўцы Марына.

9

Вечар усё ахутаў цемрай. За вёскай стаяла постаць. Рукі пастаці выцягнулі з поліэтыленавага пакета чорную хусцінку, чорную кофту і чорную спадніцу. Краечкі вуснаў прыўзняліся ва ўхмылцы і прагаварылі:

— Хутка нячыстая сіла зноў пацешыцца на могілках!

10

Ужо сцямнела, калі Алена знайшла Косцю каля сельсавета.

Заканчэнне. Пачатак у № 36.

— Заканчэнне на 8-й стар. —

ДЭТЭКТЫЎНАЕ АПАВЯДАННЕ

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# НЯЧЫСТАЯ СІЛА

Пачатак на 7-й стар.

— Вы ноччу пойдзеце на могілкі? — запыталася яна.

— Пайду! — адказаў Косця.

— Не хадзіце! Прашу вас! — Алена, як і раней, звярталася да Косці на "вы". Яна ніяк не магла пераступіць тую рысачку, за якою пачыналася "ты".

Костя ляпнуў рукою па кабуры.

— Каго мне баяцца? У мяне пісталет.

— Вы на могілках будзеце страляць? — разгубілася Алена.

— Магчыма, без страляніны абыдзецца. Невядома, ці асмеліцца нячыстая сіла напасці на мяне.

Алена прыўстала на дыбачкі і горача дыхнула Косцю ў твар:

— Косця, не хадзіце туды!

— "Нячыстая сіла" вылезла з бэзу? — пацікавіўся Косця.

Алена апусціла галаву.

— Так.

11

За мармуровым помнікам, на якім можна было прачытаць словы "Дарагому тату і дзядулю...", стаяла постаць у чорнай хусцінцы, чорнай кофце і чорнай доўгай спадніцы. Постаць чакала, сціскаючы ў руцэ драўляны малаток. На гэты раз яна не абкруціла яго ручніком.

У кустах бэзу заліваўся песняй салавей. Яму было добра тут, на могілках, каля свайго ўтульнага гняздзечка.

Постаць пачула, як рыпнулі вароты.

— Прыйшоў! — з нянавісцю прамовіла яна і схавалася за помнікам.

12

Лейтэнант Косця ішоў па ўтаптанай людзьмі сцежцы, паабапал якой стаялі крыжы і помнікі. Ён не верыў, што "нячыстая сіла" нападзе на яго, але правую руку трымаў на кабуры пісталета.

Днём ён хацеў пазваніць у раённы аддзел міліцыі і паведаміць, што ноччу на могілках будзе лавіць злачынцу, які называе сябе нячыстай сілай, ды перадумаў. Чаго добрага, калегі на смех падымуць. Тады бывай мара аб міліцэйскай кар'еры. Павесяць ярлык лаўца нячыстай сілы, і да пенсіі з гэтым ярлыком, як з кляймом, будзеш хадзіць.

Лейтэнант Косця страсянуў бляшаным кубкам. Ён нарве суніцаў і прынясе Алене. Яна незвычайная дзяўчына, непадобная да іншых. Хтосьці жорстка пажартаваў, напалохаўшы яе на могілках. Ён, лейтэнант Косця, абавязкова знойдзе гэтага жартаўніка. Ён дакажа вяскоўцам, што нездарма яго сюды прыслалі.

Лейтэнант Косця мінуў мармуровы помнік з надпісам "Дарагому тату і дзядулю...". З-за помніка прыўзнялася постаць у чорным і, сагнуўшыся, накіравалася за Косцем, а потым, узняўшы руку, драўляным малатком стукнула яму па галаве. Косця войкнуў і тварам упаў на сцежку.

— Ха-ха-ха... — зарагатала постаць і, сарваўшы з галавы чорную хусцінку, кінула яе на Косцеву спіну.

13

На другі дзень Пеця і Толік каля сельсавета ўбачылі Алену. Яна стаяла там разам з Марынай і лейтэнантам Косцем. Косця нешта расказваў дзяўчатам, трымаючыся рукою за перабінтаваную галаву.

— Добра пачаставала яго нячыстая сіла! — не хаваючы радасці, прагаварыў Пеця.

У вёсцы кожны ведаў, што здарылася з Косцем ноччу на могілках. Ачуняўшы і сяк-так перабінтаваўшы разбітую галаву, у чатыры гадзіны раніцы ён вярнуўся дамоў. Пра гэта на ўсю вёску раззваніла бабуля Мар'яна, у якой ён кватараваў.

— Бач ты! І на міліцыянера напала, не пабаялася, — з нейкай асаблівай павагай прагаварыў Толік.

— Добры дзень, дзяўчаткі, — падышоўшы бліжэй, прывітаўся Пеця.

— Добры дзень, — адказала Марына.

А Косця рэзка апусціў руку і выцягнуў з кішэні чорную хусцінку.

— Вось што пакінула мне нячыстая сіла!

— Марына, гэта ж твая хусцінка! — усклікнула Алена. — Ты яе купіла, калі твой дзядуля памёр! Бачыш? На ражку дзірачка! Ты ў той дзень прапаліла хусцінку!

— Мая!.. Але, мая! — Марына, было відаць, разгубілася. — Яна... Яна ж у шафе ляжала.

Пеця тыцнуў пальцам, паказваючы на Марыну.

— Ты нячыстая сіла, жанчына ў чорным!

— Кофту і спадніцу яна, мабыць, у шафе хавае, — выказаў здагадку Толік.

— Тонік, вось кофта і спадніца, — пачуўся тоненькі галасок.

Толік і Пеця, як па камандзе, павярнуліся і ўбачылі Міколку, які трымаў перад сабою поліэтыленавы пакет.

— У нашым хлеўчуку, у сене, нехта гэты мяшок пакінуў. Міколка прыўзняў пакет, каб паказаць яго ўсім.

Лейтэнант Косця ўзяў у Міколкі пакет і дастаў з яго чорную кофту і чорную спадніцу.

— І кофта мая, і спадніца мая! — усклікнула Марына.

Алена зірнула на Пецю і сціснула кулачкі.

— Ты ў Марыны з шафы ўкраў хусцінку, кофту і спадніцу, а затым напаў на мяне? Ты?

— Гонар з цябе хацеў збіць. Думаў, што палягчэе мне, — глуха прамовіў Пеця.

— Палягчэла? Палягчэла? — два разы крыкнула Алена.

— Не, — сказаў Пеця і пайшоў, шлёпанцамі заграбаючы пясок.

УСПАМІН ПРА ЛЕТА



БелТА.

КРЫЖАВАНКА




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 3. Верхняя частка воза (без колаў). 8. Тэкст, перакладзены з адной мовы на іншую. 9. Каштоўны або штучны камень з яркай афарбоўкай. 11. Даўнейшае многавёсельнае судна, вяслярамі на якім у Заходняй Еўропе былі звычайна катаржнікі. 12. Поле, не аранае некалькі гадоў запар. 13. Шырокі прастор як акінуць вокам. 15. Чарцёж зямной паверхні або зорнага неба. 17. Труба канічнай формы (для ўзмацнення гуку). 19. Прыстасаванне для перадачы або ўлоўлівання радыёхваль. 20. Краіна, у якой нарадзіўся чалавек і грамадзянінам якой ён з'яўляецца; Бацькаўшчына. 24. Музычна-драматычны твор, пры пастаноўцы якога дзеючыя асобы спяваюць у суправаджэнні аркестра. 26. Пра чалавека, які адмаўляецца ад жыццёвых задавальненняў і вядзе празмерна строгі, замкнуты лад жыцця. 27. Расправа з палітычнымі і класавымі праціўнікамі з прымяненнем насілля аж да фізічнага знішчэння. 28. Рака ў Сібіры. 29. Вялікая лодка на вёслах; шлюпка. 32. У мовазнаўстве: словы з процілеглым значэннем. 33. Даўней: чужаземец, чалавек іншай веры. 34. Невялікі, звычайна навуковы твор у газеце, часопісе, зборніку.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Будынак для пастаяннага месцазнаходжання цара, кіраўніка дзяржавы. 2. Лёгкая, звычайна крытая прыбудова з прыступкамі перад уваходнымі дзвярыма. 4. Працяжны перарывісты гул. 5. Выражэнне незадавальнення, нараканне. 6. Спецыяліст, які вырабляе скуры. 7. Чалавек, які вывучае прыродныя ўмовы Зямлі, размеркаванне на ёй насельніцтва і эканамічных рэсурсаў. 10. Назва розных касметычных і іншых рэчываў у выглядзе цестападобнай масы. 13. Той, хто карыстаецца абанементам. 14. Прычапная або самаходная землярыйная машына з адвалам для выраўноўвання палатна грунтавой дарогі, планіроўкі адхонаў, пракладкі каналаў. 16. Самы высокі мужчынскі голас, а таксама спявак, які мае такі голас. 18. Першая пэўная грашовая сума, пакладзеная ў ашчадны ці які-небудзь іншы банк; уклад. 21. Той, хто выступае з пярэчаннямі, абвяржэннем чыіх-небудзь думак у час публічных дыспутаў, спрэчак. 22. Пласкадоннае судна або плыт для пераправы цераз раку. 23. Перадача сваімі словамі прачытанага, пачутага. 25. Халодная будыніна для кармоў і гаспадарчых прылад; пуня. 26. Месца, храм, дзе ў Старажытнай Грэцыі, Рыме і краінах старажытнага Усходу жрацы прарочылі ад імя Бога. 30. Стомленасць. 31. Няўхільны, немінучы лёс.**

Склала Ірына БЕКІШ.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 34

**СЛОВЫ ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Вяселле. 3. Дзеяч. 5. Пуга. 8. Сціпласць. 10. Сурвэтка. 11. Вуда. 12. Воцат. 13. Паша. 16. Нарад. 18. Выхаванне. 19. Бэз. 20. Бавоўна. 21. Кола. 22. Сведка. 24. Казка. 28. Кажан. 30. Нарада. 31. Палон. 33. Частка. 34. Брамка. 37. Шыпшына. 38. Бразготка.

**СЛОВЫ ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Вёска. 2. Лялька. 3. Дзьмухавец. 4. Чарга. 6. Грамада. 7. Чэрвень. 9. Іржа. 10. Старонка. 13. Парэчкі. 14. Захапленне. 15. Сейбіт. 17. Дараванне. 18. Верасень. 23. Кірмаш. 24. Капялюш. 25. Золак. 26. Скарб. 27. Раскоша. 29. Жыта. 32. Пара. 35. Рэч. 36. Дах.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльныя карэспандэнты Яўген КАЗЮЛЯ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2335.
Падпісана да друку 18.9.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).